Праваабарончы
# Веснік
чэрвень 2011
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# СОТНІ ЖЫХАРОЎ МАГІЛЁВА ВЫХОДЗЯЦЬ НА АКЦЫІ ПРАТЭСТУ

***Кожную сераду а 19-й гадзіне ў цэнтры Магілёва збіраюцца маладыя збольшага людзі. Яны не выкрыкваюць лозунгаў, не маюць пры сабе ані плакатаў, ані сцягоў, аніякай сімволікі. Яны маўчаць пра тое, што ў нашай краіне ўсім зразумела і без словаў.***

Ідэя гэтых маўклівых акцый пратэсту нарадзілася ў т.зв. сацыяльных сетках у інтэрнэце - такіх, як ВКонтакте ці Facebook. Рух , які называецца «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку», і аб'ядноўвае дзясяткі тысячаў людзей, здолеў кожны тыдзень выводзіць сотні сваіх прыхільнікаў на цэнтральныя плошчы беларускіх гарадоў.

У Магілёве першая акцыя пратэсту ў рамках «Рэвалюцыі праз сацыяльную сетку» адбылася 8-га чэрвеня. Тады каля помніка Леніну сабралося, па словах удзельнікаў, каля 80 чалавек. Наступную акцыю 15 чэрвеня правесці на пл. Леніна перашкодзіла міліцыя: ўсе выхады на яе былі ачэпленыя. Аднак удзельнікі хутка знайшлі выйсце і сабраліся насупраць - у скверы каля крамы «Фактура». Каля 200 чалавек знаходзіліся ў скверы паўгадзіны, зрэдку адказваючы воплескамі на вітанні кіроўцаў, што праязджалі каля скверу.

Наступная пратэстная акцыя адбылася 22 чэрвеня і сабрала ўжо каля 300 чалавек. Як і ў мінулы раз, міліцыя ацапіла плошчу, а ўдзельнікі знаходзіліся ў скверы насупраць яе.

Па гэткім жа сцэнары прайшла і акцыя 29 чэрвеня, на якую прыйшлі 500 чалавек.

А вось у наступным мерапрыемстве «Рэвалюцыі праз сацыяльную сетку» ўзялі ўдзел, па некаторых ацэнках, да 1000 чалавек. Гэтым разам ўлада, спалоханая размахам пратэстаў, рэагавала больш жорстка, чым у папярэднія разы. 3-га ліпеня была ачэпленая не толькі плошча Леніна, але і сам сквер насупраць яе. Удзельнікі збіраліся вакол яго, а таксама на прыпынку, што знаходзіцца побач; частцы з іх удалося прайсці і ў сквер. Пасля паўгадзінных спрэчак з міліцыяй удзельнікі рушылі шэсцем у бок Савецкай плошчы, спачатку па бульвары Леніна, а потым - па вул. Ленінскай. На Ленінскай стала відавочным, што ў акцыі ўдзельнічае некалькі соцень чалавек. Настолькі масавых акцыяў пратэсту Магілёў не бачыў больш дзесяці гадоў.


*Акцыя пратэсту 3-га ліпеня скончылася шэсцем соцень магіляўчан па вуліцы Ленінскай*

Да 3-га ліпеня Магілёў заставаўся бадай адзіным горадам, у якім падчас акцый «Рэвалюцыі праз сацыяльную сетку» не затрымлівалі ўдзельнікаў. Але, відаць, дараваць масавага шэсця на афіцыёзны «Дзень незалежнасці» ўлады не змаглі. Прыкладна а восьмай вечара каля кінатэатра «Радзіма» невядомыя ў цывільным пачалі выхопліваць людзей з натоўпу, што рухаўся па вул. Ленінскай, і заводзіць іх у міліцэйскі аўтобус.


*Акцыя пратэсту ў цэнтры Магілёва 29 чэрвеня*

Увагу міліцыянтаў выклікалі не шараговыя ўдзельнікі акцыі, а найперш тыя, хто спрабаваў зафіксаваць тое, што адбываецца, на фота- ці відэакамеры. Пры выкананні сваіх прафесійных абавязкаў былі затрыманыя журналісты Алесь Асіпцоў, Ганна Ільіна, Аліна Скрабунова. Быў затрыманы праваабаронца Барыс Бухель, які здымаў падзею на мабільны тэлефон. Усяго было затрымана і дастаўлена ў РАУС Ленінскага раёну 12 чалавек. Там на затрыманых склалі пратаколы аб тым, што яны «ўзялі ўдзел у масавым руху групы грамадзянаў, з перыядычнымі сінхроннымі воплескамі, ў мэтах прыцягнення ўвагі грамадзянаў да якіх-небудзь праблемаў».

Большасць затрыманых была таксама абвінавачаная ў непадпарадкаванні законным патрабаванням пасадовых асобаў (тут варта нагадаць, што затрыманні ажыццяўлялі невядомыя асобы ў цывільнай вопратцы, якія не прадстаўляліся і не прад'яўлялі якіх бы то ні было дакументаў). Затрыманых выпусцілі з РАУСу больш чым праз тры гадзіны, якія дазволеныя па законе, а праваабаронцу Б.Бухеля - больш чым праз пяць гадзінаў (ён выйшаў з РАУСу каля 3-й гадзіны ночы). Пяцярых затрыманых, сярод якіх апынуліся і журналісткі Г.Ільіна і А.Скрабунова, з міліцыі так і не выпусцілі: іх адвезлі ўва Ізалятар часовага ўтрымання для адміністрацыйна затрыманых, дзе яны будуць знаходзіцца да суду.

**Магілёўскае аддзяленне ПЦ «Вясна» ў інтэрнэце:**

**www.mahilyowspring.org**

# У МАГІЛЁВЕ ЎТРЫМЛІВАЮЦЦА СЯМЁРА ПАЛІТЫЧНЫХ ЗНЯВОЛЕНЫХ

### ДЗМІТРЫЙ БАНДАРЭНКА




Нарадзіўся ў Менску 28 верасня 1963 году. У 1984 г. скончыў Інстытут фізічнай культуры. У 1995-1996 гг. працаваў на незалежным Радыё 101.2 FM, закрытым уладамі. Адзін з заснавальнікаў грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя-97», каардынатар грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь». У часе прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. быў актывістам штабу кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава. Быў арыштаваны 20 снежня ва ўласнай кватэры і змешчаны ў СІЗА КДБ. Прад'яўленае абвінавачанне па крымінальнай справе, узбуджанай следчым упраўленнем папярэдняга расследавання ГУУС Мінгарвыканкаму па чч. 1 і 2 арт. 293 КК (масавыя беспарадкі). 4 красавіка абвінавачанне зменена на арт. 342 (арганізацыя дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, ці ўдзел у іх).

**26 красавіка асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі.**

Дз.Бандарэнка адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №15.

### ДЗМІТРЫЙ БУЛАНАЎ

Нарадзіўся ў Менску 25 жніўня 1984 году. Скончыў менскі медыцынскі каледж №2, два гады працаваў медбратам у інфекцыйнай бальніцы, лячыў цяжка хворых, у тым ліку і на СНІД. Пакутуе на шэраг хранічных хваробаў,



сярод іх рэўматызм, небяспечныя алергічныя рэакцыі; праз гэта зараз пад пагрозай ягонае жыццё. Палітыкай не займаўся, ніколі не быў сябрам палітычных партыяў і рухаў. Быў затрыманы і збіты падчас разгону мірнай акцыі 19 снежня, яму рассеклі галаву. Асуджаны на 10 сутак арышту. Пасля вызвалення з ізалятару на Акрэсціна быў затрыманы паўторна 12-га студзеня 2011 г.

**26 траўня ў Ленінскім судзе Менску асуджаны на 3 гады калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Дз.Буланаў адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №15.

### АЛЯКСАНДР МАЛЧАНАЎ



Нарадзіўся 22 чэрвеня 1988 году ў Барысаве. Вучыўся ў Барысаўскай школе № 22. Паступіў у Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут у Менску. Пасля акцыі пратэсту на Плошчы быў затрыманы 6 студзеня ў сябе дома ў Барысаве. Было прад'яўлена абвінавачаньне па справе аб масавых беспарадках.

**2 сакавіка асуджаны ў Фрунзенскім судзе Менску на 3 гады зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

А.Малчанаў адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №15.

### ЯЎГЕН САКРЭТ




Нарадзіўся ў Менску 3 кастрычніка 1966 году. Пасля сканчэння сярэдняй школы №110 служыў у войску. Выпускнік лесагаспадарчага факультэту тэхналагічнага інстытуту імя Кірава. Падчас прэзідэнцкіх выбараў-2010 быў сябрам ініцыятыўнай групы Андрэя Саннікава. Затрыманы 19 снежня 2010 г. пасля акцыі пратэту ў Менску, адбыў 10-суткавы арышт. Паўторнае затрыманне адбылося, верагодней за ўсё, 17 студзеня 2011 г.

**12 траўня асуджаны на 3 гады зняволення.**

Я.Сакрэт адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №15.

### ДЗМІТРЫЙ УС



Кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 г. Беспартыйны. Нарадзіўся ў 1971 годзе ў Менску. Скончыў юрыдычны факультэт Гродзенскага ўніверсітэту. Працаваў рабочым на заводзе «Інтэграл» у Менску, пазней - у сферы будаўніцтва. З 1992 г. – дырэктар выдавецтва «Трывіюм». Затрыманы ў Менску ў ноч з 19 на 20 снежня пасля масавай акцыі пратэсту. Утрымліваўся ў СІЗА КДБ. Удзень 20 снежня выпушчаны адтуль пад падпіску аб невыездзе. Абвінавачанне па арт. 293 КК прад'яўленае 18 сакавіка 2011 г. Заяўляў пра ціск з боку следства з мэтай атрымання абвінаваўчых паказанняў на яго сябра Міколу Статкевіча.

**26 траўня ў Ленінскім судзе Менску асуджаны да 5,5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Дз.Ус адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №15.

### АЛЕГ ФЕДАРКЕВІЧ




Нарадзіўся 19 сакавіка 1961 у Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці, дзе скончыў школу 10-годку. У школьны час марыў стаць лётчыкам і па заканчэнні навучальнай установы паступіў у Армавірскую Лётную Вучэльню, што месцiцца ў Краснадарскім краі. Але правучыўшыся 3 гады захварэў на сухоты, атрымаў II ступень інваліднасці і быў камісаваны з вучэльні з прычыны хваробы. Мае небяспеку рэцыдыву хваробы.

Пераехаў з сям'ёй у Мінск, дзе паступіў у Мінскі Палітэхнічны Інстытут, стаўшы па выніку прафэсійным інжынерам-будаўніком. З таго часу прысвячаў свае жыццё менавіта будаўніцтву, як па працы, так і ў вольны час. Апроч таго, захапляецца турызмам, любіць гісторыю, асабліва цікавіцца гісторыяй Крыма, куды і летам надзвычай часта ездзіць. Жанаты. Мае дачку.

19 сакавіка быў затрыманы за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў, адбываў адміністрацыйны арышт у ЦІП на завулку Акрэсціна, дзе былі прад'яўлены абвінавачанні па частцы 2 арт. 293 «Масавыя беспарадкі».

**12 траўня 2011 быў асуджаны судом Маскоўскага раёну да 3,5 гадоў пазбаўлення волі з накіраваннем у калонію ўзмоцненага рэжыму.**

А.Федаркевіч адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №19.

### УЛАДЗІМІР ХАМІЧЭНКА




Нарадзіўся ў 1986 годзе. Гадаваўся ў дзіцячым доме ў Старых Дарогах і школе-інтэрнаце ў Рудзенску. Скончыў сельскагаспадарчы ліцэй у Слуцку. Палітыкай не займаўся. Жыў у Менску і Віцебскай вобласці. Двойчы судзімы па крымінальных справах. Затрыманы пасля разгону акцыі на плошчы Незалежнасці 19 снежня, асуджаны на 15 сутак, потым абвінавачаны ва ўдзеле ў масавых беспарадках.

**5 траўня асуджаны на 3 гады зняволення.**

У.Хамічэнка адбывае пакаранне ў магілёўскай папраўчай калоніі №19.

## Падтрымайце палітвязняў!

**Паштовы адрас Дзмітрыя Бандарэнкі, Дзмітрыя Буланава, Аляксандра Малчанава, Яўгена Сакрэта, Дзмітрыя Уса:**

**213105, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія №15**

**Паштовы адрас Алега Федаркевіча і Уладзіміра Хамічэнкі:**

**212030, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, папраўчая калонія №19**

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.